ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.29 (3149) ● ● ЧАЦВЕР, 6 ЖНІЎНЯ, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Не адрывацца ад каранёў**
Фонд "Белыя Росы" яднае беларусаў Санкт-Пецярбурга
Стар. 3



**Знічкі Айчыны**
Стар. 3



**"Песняры" абнавілі рэпертуар**
Знакаміты калектыў прадставіў у Канцэртнай зале "Мінск" новую праграму "Вольнаму — воля"
Стар. 4

З АРХІВАЎ ЧАСУ

# Колас на новай зямлі

## Малавядомыя дакументы пра жыццё Канстанціна Міцкевіча і яго сям'і прадстаўлены ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа

Віктар Корбут




Скарбы з даваеннай сядзібы Якуба Коласа

Вядома, што ў час Вялікай Айчыннай вайны песняр знайшоў прытулак у далёкім Узбекістане, а ў Мінску быў рассыпаны набор галоўнай паэмы класіка (перавыданне) і згарэў ягоны дом. Аднак найбольшая страта, якая напаткала Якуба Коласа ў Вялікую Айчынную вайну — страта сына Юркі: ён прапаў без вестак.

Бацька доўга звяртаўся ў розныя інстанцыі, каб адшукаць сына. Юрка Міцкевіч у 1940 годзе быў прызваны ў Чырвоную Армію. Служыў пад Беластокам, напярэдадні вайны прыехаў у Мінск на спаборніцтвы, але размінуўся з бацькам. Канстанцін Міцкевіч не ведаў, што Юрку яму ўжо ніколі не ўбачыць. Як не давялзецца і самому вярнуцца ў родную хату: яна згарэла, як і многія іншыя дамы Мінска, у полымі вайны.

З рэчаў Коласавай сядзібы ацалеў толькі сейф — яго ўратаваў сябар пісьменніка Адам Брыш (Брыж). Ён перацягнуў скарб з папялішча ў свой двор, дзе сейф праляжаў да вызвалення Мінска. Калі ж Колас адкрыў яго сваім ключом, то знайшоў толькі сатлелыя шматкі паперы, якія ў руках адразу ж рассыпаліся — так загінулі каштоўныя рукапісы. Захаваліся толькі дзве чаркі. Іх падарылі Канстанціну Міхайлавічу і ягонай жонцы Марыі Дзмітрыеўне ў гонар 25-годдзя шлюбу ў 1938 годзе Янка Купала і яго жонка Уладзіслава Францаўна.

Адна з нямногіх рэчаў, якую Коласу ўдалося ўратаваць са свайго дома і забраць у эвакуацыю — выданне паэмы "Новая зямля". Кніга была набрана ў Доме друку і мусіла была пабачыць свет недзе летам 41-га года. Але аўтар атрымаў толькі сігнальны экземпляр. Яго паказала мне Зінаіда Камароўская, дырэктар дома-музея песняра. Кніга так і не дайшла да чытача, а асобнік, што захоўваецца ў музеі, — адзіны ў свеце. Цяпер "Новая зямля" 1941 года, бадай, самая рарытэтная з беларускіх кніг.

Амаль усе гады нямецкай акупацыі Беларусі Колас пераховўваў гэтую рэліквію ў Ташкенце. Як расказала Таццяна Макаранка, старшы навуковы супрацоўнік дома-музея пісьменніка, 7 жніўня 1941 года ў 16.40 поезд № 22 адправіўся з Масквы ў Ташкент. Колас, заняўшы 9-е месца ў 5-м вагоне, трымаючы ў руках томік "Новай зямлі", думаў пра згубленага сына Юрку, родны дом у Мінску і пра невядомасць, якая чакае яго сям'ю, — бо вайна толькі пачалася…

На незанятай немцамі тэрыторыі знаходзілася эвакуяваная з радзімы Акадэмія навук Беларусі, а пясняр з 1929 года быў яе віцэ-прэзідэнтам.




Білет з 1941 года, па якім пісьменнік ехаў у Ташкент

ГЕОРГІЙ ШАБЛЮК

Са слоў Зінаіды Камароўскай, у доме-музеі Коласа цяпер штомесяц ладзяцца выставы, на якіх экспануюцца арыгінальныя рэчы, што раскрываюць невядомыя грані асобы класіка нацыянальнай літаратуры.

ВЕСТКІ

## Кантакты будуць пашырацца

Вольга Багачова

**Пабрацімскія сувязі паміж рэгіёнамі Венесуэлы і Беларусі актывізуюць супрацоўніцтва дзвюх краін**

На сустрэчы з кіраўніцтвам Віцебскага аблвыканкама Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла Амерыка Дыяс Нуньес сказаў, што плоскасць інтарэсаў Венесуэлы тычыцца ўсіх галін беларускай дзяржавы: культуры, спорту, турызму, эканомікі. У прыватнасці, Венесуэла зацікаўлена ў наладжванні больш цесных дачыненняў з беларускімі ўстановамі адукацыі з усіх рэгіёнаў, абмене маладзёжнымі і дзіцячымі дэлегацыямі, творчымі калектывамі, мастакамі і артыстамі. У сферы эканомікі прывабна стварэнне сумесных прадпрыемстваў. "У мэтах актывізацыі партнёрства мы ўжо наведалі два віцебскія прадпрыемствы, дзе вывучылі магчымасць укладання капіталу", — адзначыў Амерыка Дыяс Нуньес.

На сённяшні дзень паміж Венесуэлай і Беларуссю падпісана 69 сумесных пагадненняў у розных сферах.

## Галасы лаўрэатаў

**Адразу тры ўдзельнікі атрымалі Гран-пры X Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні, які прайшоў у мястэчку Веліж, што ў Смаленскай вобласці**

Двое з гэтых таленавітых выканаўцаў – беларусы: гэта саліст Магілёўскай філармоніі Аляксей Чорны і Яўген Літвінковіч з Жодзіна. Перамогу яны падзялілі са студэнткай Смаленскага гуманітарнага універсітэта Марыяй Жураўлёвай.

Сярод вакальных ансамбляў лепшымі таксама былі прызнаны прадстаўнікі Беларусі – выканаўцы з народнай студыі эстраднага спеву "Крэатыў" з Оршы.

У конкурсе прымалі ўдзел сорак два салісты ва ўзросце да трыццаці гадоў і шэсць вакальных ансамбляў са Смаленскай, Пскоўскай, Ленінградскай, Калінінградскай і Амурскай абласцей Расіі, а таксама з Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай абласцей.

ЯК СПРАВЫ, ДЫЯСПАРА?

# Не адрывацца ад каранёў

## Фонд "Белыя Росы" яднае беларусаў Санкт-Пецярбурга

Іван Ждановіч

На Пятым з'ездзе беларусаў свету я сустрэў гасцей з паўночнай расійскай сталіцы — прэзідэнта фонда "Белыя Росы" Ірыну Рогаву і старшыню праўлення фонда Аляксандра Сідарка. З Аляксандрам мы і гутарылі пра тое, як ён аказаўся ў Расіі, а таксама пра справы нашых землякоў у горадзе на Няве.

**— Аляксандр Георгіевіч, раскажыце крыху пра сябе.**

— Частку жыцця правёў на Гродзеншчыне, дзе і нарадзіўся. Бацькі жылі і працавалі ў вядомым пасёлку Юрацішкі, гэта Іўеўскі раён. Там закончыў школу, там жывуць мае аднакласнікі, сустрэчы з якімі заўсёды грэюць душу, там і бацькоўскія магілы. Ёсць у мяне родавыя сувязі з Хойніцкім раёнам, вёскай Стралічава — тыя мясціны пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Так што аднолькава блізкі мне і усход, і захад Беларусі. Шмат гадоў я служыў на Камчатцы, быў афіцэрам ваенна-марской авіяцыі. Калі закончыў службу на Ціхаакіянскім флоце, захацелася жыць бліжэй да Радзімы — так і аказаўся гады чатыры таму ў Піцеры. Атрымаў кватэру, працую ў адміністрацыі Петраградскага раёна, у сацыяльнай сферы. Штогод бываю на Радзіме, тут у мяне і тры браты жывуць.

**— Адкуль у вас цікавасць да "беларускай тэмы"?**

— З Камчаткі. Там вельмі моцнае беларускае зямляцтва, і я з 1997 года актыўна ў ім працаваў. Між іншым, пачынаў службу простым салдатам, а закончыў падпалкоўнікам, так што вопыт работы з людзьмі ў мяне салідны.

**— Вы прадстаўляеце фонд "Белыя Росы". Што гэта за арганізацыя, і адкуль такая назва ў яе?**

— Як вядома, у культурнай сталіцы Расіі шмат нашых землякоў, кажуць, больш за 160 тысяч. Створана, наколькі мне вядома, 5 беларускіх суполак. і ўсе аўтаномна вядуць работу. І нават афіцыйная арганізацыя — Нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў, што пры Доме нацыянальнасцяў Санкт-Пецярбурга, чамусьці не аб'ядноўвае іх. Каб працаваць з большай аддачай, мы і стварылі фонд "Белыя Росы", які зарэгістраваны ў снежні мінулага года. Наконт назвы магу сказаць: яна бярэ пачатак ад племені русаў, якое, як сцвярджаюць гісторыкі, пражывала ў заходняй частцы Беларусі: пад Ваўкавыскам ёсць прыгожая рэчка Рось. Наша мэта — аб'яднаць усе беларускія арганізацыі пад адным сцягам, каб актывізаваць сярод землякоў культурную і асветніцкую работу, дапамагаць ім не адрывацца ад этнічных каранёў, падтрымліваць сувязі з Радзімай. Наш "спецыялізаваны фонд упраўлення мэтавым капіталам", як ён цалкам называецца, і задуманы, каб акумуляваць матэрыяльныя і духоўныя рэсурсы жыхароў-беларусаў Санкт-Пецярбурга на агульную карысць. Збіраем сродкі і рэалізуем праграмы ў сферы культуры, здароўя, турызму, сацыяльнай дапамогі, мастацтва, непрафесійнага спорту. У нас ёсць штаб-кватэра, фонд працуе пры Парламенцкім цэнтры Санкт-Пецярбурга на Вялікай Марской вуліцы, гэта ў нашым раёне.

**—Ці жадаюць нашы землякі збірацца, як вы сказалі, пад адным сцягам?**

—На тэрыторыі горада на Няве, паўночна-заходняга рэгіёна Расіі пражывае шмат вядомых людзей з беларускімі каранямі. Мы, дарэчы, ужо ўсталявалі кантакты з Мурманскам, Ноўгарадам, Псковам. І, паверце, усюды бачна цяга да яднання. І ёсць задума нават стварыць агульны беларускі савет. Вялікую патрэбу маем і у Беларускім культурным цэнтры, якога пакуль у Санкт-Пецярбургу няма.

**—Што ўжо зроблена вамі за час існавання?**

—Адна са знакавых спраў, якую мы арганізавалі летась у лістападзе, — гастролі знакамітага танцавальнага ансамбля "Харошкі", а таксама выстава сцэнічных нацыянальных касцюмаў "Харошак" у Санкт-Пецярбургу. Удзельнічалі мы і ў арганізацыі гастроляў у нашым горадзе Маладзёжнага тэатра з Гомеля. Між іншым, мы стварылі і свой маладзёжны тэатр, у якім пастаўлены ўжо два спектаклі, адзін з іх — па знакамітай п'есе Андрэя Макаёнка "Трыбунал". Вядзе рэпетыцыі і новаствораны вакальны ансамбль. На міжнародны фестываль "Горад міру, дружбы і любові", што праводзіцца ў Санкт-Пецярбургу, дапамаглі прыехаць дзіцячым калектывам з Мазыра.

**—Што ў планах, Аляксандр Георгіевіч?**

—Пакуль маем намер працаваць менавіта ў сферы культуры. Як вядома, культурныя мерапрыемствы збіраюць, яднаюць людзей. Акрамя таго, мы рыхтуемся да выпуску сваёй газеты, сабрана ўжо шмат цікавых матэрыялаў. Плануем з часам выдаваць і часопіс, культурна-гістарычнай скіраванасці. Падобны, дарэчы, ужо выдаюць украінцы Санкт-Пецярбурга. Між іншым, падчас майго папярэдняга візіту ў Мінск у маі я дзяліўся планамі ў Апараце ўпаўнаважанага, меў гутарку з намеснікам міністра інфармацыі Ігарам Лапцёнкам. Так што заручыўся падтрымкай з Беларусі, на першым часе інфармацыйнай, але і яна для нас важная. Маем намеры і іншага роду.У нашым горадзе, прыкладам, няма помнікаў вядомым беларусам, тым жа Янку Купалу ці Якубу Коласу. Толькі адна шыльдачка прымацавана на доме на Васільеўскім востраве, дзе пражываў Купала. Паколькі ў Маскве ёсць помнік Купалу, то ў нашых планах — стварэнне помніка Якубу Коласу, першая кніга якога была надрукавана менавіта ў Санкт-Пецярбургу. Выбрана і месца пад будучы помнік беларускаму песняру.



ІВАН ЖДАНОВІЧ

Аляксандр Сідарок (справа) штогод прыязджае з Санкт-Пецярбурга на радзіму

## Вобразы смутку і болю

**Мінскі гарвыканкам аб'явіў аб правядзенні адкрытага рэспубліканскага конкурсу на стварэнне мемарыяльнай кампазіцыі "Трасцянец"**

Мэта конкурсу — пошукі найбольш выразнага, дакладнага і лаканічнага вобразнага рашэння мемарыяльнай кампазіцыі на тэрыторыі былога лагера смерці "Трасцянец". Гэтае месца знаходзіцца на паўднёвым усходзе Мінска, у раёне вуліцы Сяліцкага.

Мемарыяльная кампазіцыя будзе створана, каб ушанаваць памяць больш чым двухсот тысяч вязняў, знішчаных фашыстамі ў 1941-1944 гадах у раёне вёскі Малы Трасцянец. Як вядома, сярод ахвяраў было шмат цывільных людзей, у тым ліку грамадзян Заходняй Еўропы. У лагер смерці траплялі і ўдзельнікі антыфашысцкай падпольнай барацьбы і партызанскага руху, мінчане, арыштаваныя ў якасці заложнікаў, ваеннапалонныя.

Конкурс будзе праведзены сёлета ў жніўні — кастрычніку. Вартасці конкурсных работ ацэніць журы, у якое ўвайшлі навукоўцы, мастакі, архітэктары, мастацтвазнаўцы, супрацоўнікі Міністэрства культуры і Мінгарвыканкама.

## Над ракою Нарвай

**У польскім мястэчку Ванева прайшоў фестываль "Даўнія песні — маладыя галасы", на якім гучалі і беларускія мелодыі**

У конкурсе прынялі ўдзел 25 фальклорных ансамбляў, дуэтаў, квартэтаў і капэл з усяго Падляшскага ваяводства. Першае месца сярод дуэтаў заваявалі Аляксандра Карнілюк і Раксана Вышкоўская з Бельска-Падляшскага.

Вызначыліся таксама маладзёжны дуэт Уршулі і Юстыны Садоўскіх з Макаўкі (Нарэўская гміна Гайнаўскага павета), маладзёжны квартэт з Чаромхі (Гайнаўскі павет), фальклорны калектыў "Цаглінкі" са Старога Ляўкова (Нараўчанская гміна) ды іншыя выканаўцы.

# З Парыжа ў Мінск – шлях праз мастацтва

## Сувязь еўрапейскіх культур становіцца ўсё больш трывалай

Дзмітрый Альфер

Дастаткова пачаць размову пра Францыю, і ўсплываюць у памяці гучныя імёны мастакоў, музыкаў, паэтаў, пісьменнікаў. Між іншым, для таго, каб пазнаёміцца з іх творчасцю, не абавязкова ехаць у Парыж.

У прыватнасці, кожнай вясной у Мінску праводзіцца тыдзень франкафоніі, прысвечаны французскаму мастацтву і мове. У гэты час праходзяць выставы, літаратурныя сустрэчы, канцэрты.

Культурны дыялог паміж Беларуссю і Францыяй усталяваўся даўно. Аднак сёлета ён уяўляецца надзвычай насычаным. "Супрацоўніцтва ў гэтым кірунку актыўна рухаецца наперад", – падкрэсліла пасол Францыі ў Беларусі Мірэй Мюсо ў час нядаўняй сустрэчы з журналістамі.

Сапраўды, у пачатку лета ў Мінск прыязджаў дырэктар парыжскага Луўра Анры Луарэт. Ён даў высокую ацэнку беларускай калекцыі жывапісу, якая змешчана ў Нацыянальным мастацкім музеі, і ў выніку выказаў прапанову наладзіць абмены выставамі.

Так, увага да Беларусі з боку ўплывовых у французскім мастацкім асяроддзі асоб становіцца ўсё большай. Мірэй Мюсо расказала, што ў хуткім часе ў Беларусі нават можа быць створаны Культурны цэнтр Францыі. Каб абмеркаваць магчымасць яго арганізацыі, сёлета ў Мінску мусіць пабываць дырэктар Фонда Напалеона гісторык Т'еры Ленц. Спадарыня Мюсо параіла беларускім журналістам набыць кнігу Патрыка Рамбо "Ішоў снег". У творы апісваецца знакавы эпізод вайны 1812 года – пераправа французскага імператара цераз раку Беразіну каля вёскі Студзёнка. Цяпер на тым месцы ў Барысаўскім раёне Міншчыны ўсталяваны помнік французскім салдатам. Мірэй Мюсо паведаміла, што ў 2012 годзе Беларусь і Францыя плануюць стварыць сумесны гісторыка-культурны праект, які будзе прысвечаны 200-годдзю пераправы Банапарта цераз Беразіну. "Падзеі, якія звязаны з эпохай Напалеона, з'яўляюцца для французаў, беларусаў, рускіх і іншых народаў Еўропы ўспамінам аб бурнай, насычанай трагічнымі эпізодамі гістарычнай эпосе", – патлумачыла яна.

Кіраўнік французскай дыпламатычнай місіі прыўзняла заслону і над культурнай праграмай, якую рыхтуе пасольства на будучы год. Асаблівую увагу М. Мюсо звярнула на выставу імпрэсіяністаў, што пройдзе ў Мінску. З Францыі прывязуць каля сарака палотнаў вядомых мастакоў, якія жылі і працавалі ў Нармандыі.

Натуральна, дыялог культур прадугледжвае двухбаковую сувязь. Таму замежны вопыт цікавы не толькі беларусам. Французам таксама ёсць чаму павучыцца ў сваіх калег. Як вядома, малады парыжскі мастак Рафаэль Зарк здымае дакументальную стужку пра Нацыянальную бібліятэку Беларусі. Суперсучасны будынак бібліятэкі натхніў яго сваёй смелай, незвычайнай архітэктурай.


БЕЛТА

Дырэктару Луўра А. Луарэту ў Мінску спадабалася

**Забытай, незаўважанай аказалася ў прасторы ўвагі да мінуўшчыны адна дата. У ліпені 2009 года – 100 гадоў з дня нараджэння нашага земляка, ураджэнца Лепеля Барыса Саламонавіча Мейлаха. Хаця, можа быць, прыкладам, у Санкт-Пецярбургу, у Пушкінскім доме, пашана ў знак яго памяці ўзведзена ў ранг падзеі асаблівай?**



Лепель. Шлюзавы мост

# Знічкі Айчыны


Лепель. Земская ўправа



Лепель. Гарадскі садзік



Лепель. Азёрная вуліца



Лепель. Вуліца Пушкіна

**Алесь Карлюкевіч**

Лепель, Лепельшчына, Лепельскі павет шмат каго ў вялікі свет навукі і мастацтваў скіравалі. Згадаем хаця б некаторыя імёны. Вось і Мейлах, адзін з самых вядомых пушкіністаў ХХ стагоддзя, нарадзіўся ў Лепелі 26 чэрвеня (9 ліпеня) 1909 года. Сярэднюю школу закончыў, праўда, у Туле. Вучыўся ва універсітэце, і ўжо у 30-я гады Барыс Саламонавіч засведчыў сябе адным з самых энергічных маладых супрацоўнікаў Інстытута рускай літаратуры. У 1935 годзе абараняе кандыдацкую "Пушкін і рускі рамантызм", праз два гады на яе аснове выдае грунтоўную кнігу. Праўда, былі ў гэтай рабоце і спрэчныя моманты. Ды ўсё ж у галоўным Барыс Мейлах не памыліўся, здолеў разгледзець велічыню Паэзіі, увогуле творчасці Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, яе ўплывы на будучыню рускай літаратуры. У пярэдадзень Вялікай Айчыннай вайны Барыс Мейлах прызначаны выконваючым абавязкі дырэктара Інстытута рускай літаратуры. У хуткім часе наш зямляк разам з калегамі выпраўляецца з блакаднага Ленінграда ў эвакуацыю ў Сярэднюю Азію. У Ташкенце абараняе доктарскую дысертацыю. І першыя пасляваенныя гады аказваюцца для Барыса Мейлаха надзвычай плённымі. Выходзяць грунтоўныя артыкулы, новыя кнігі: у 1958 годзе — манаграфія "Пушкін і яго эпоха", у 1962 — "Мастацкае мысленне Пушкіна як творчы працэс", у 1969 "Талент пісьменніка і праблемы творчасці". У сааўтарстве з Б. Гарадзецкім і М. Ізмайлавым Барыс Саламонавіч рыхтуе важную і для настаўнікаў кнігу "Пушкін. Вынікі і праблемы вывучэння" (1966 год). Літаратуразнаўца спрабуе выйсці за межы адно толькі пушкінскай тэмы, імкнецца пафіласофску разглядаць здабыткі рускай літаратуры ХІХ стагоддзя, асэнсоўваючы месца мастацкага слова ва ўплывах на развіццё грамадства. Шырокі розгалас выклікала кніга Б. Мейлаха "Сыход і смерць Льва Талстога" (1960 год, 2-е выданне — 1979). У 1974 годзе Барыс Саламонавіч выступае на адным з навуковых пасяджэнняў з разгорнутым планам стварэння "Пушкінскай энцыклапедыі".

Яшчэ адна постаць заслугоўвае асобнага расповеду. Гаворка — пра Восіпа Кандратавіча Мароза (нарадзіўся, праўда, у Бачэйкаве Бешанковіцкага раёна). Выкупіўшы лепельскі хутар Фатынь, з 1888 года заклаў доследную гаспадарку, пачаў займацца садоўніцтвам і раслінаводствам. Асаблівую ўвагу надаваў вырошчванню яблынь: у пладовым гадавальніку завёў болей 100 іх гатункаў… А яшчэ там было каля 50 гатункаў груш, дзесяткі гатункаў костачкавых дрэў, кустоў парэчак, агрэсту, маліны, суніц. У адмысловай аранжарэі Восіп Кандратавіч вырошчваў фінікавую пальму, высакародны лаўр, вінаград, кіпарыс, іншыя экзоты. У першыя гады Савецкай улады сядзіба Фатынь была абвешчана доследнай гаспадаркай. Восіп Мароз, дарэчы, вывеў новы гатунак яблык: антонаўку салодкую. Перапісваўся лепельскі садавод з многімі вучонымі, практыкамі. Здабыткі свае не хаваў, удзельнічаў у выставах, атрымліваў узнагароды. Напрыканцы 20-х гадоў тое, што засталося ад раней знакамітай сядзібы, Мароз прадаў і з'ехаў у Сібір, дзе і памёр у 1933 годзе. Мо яшчэ і памяць пра яго будзе належна ушанавана? Добра было б, каб садам з яго імем, ды хаця б некалькімі радкамі ў энцыклапедыі.

…Нядаўна пабачыла свет сапраўдная энцыклапедыя "Беларускі Пецярбург" Міколы Нікалаева. Сотні імёнаў ураджэнцаў Беларусі, якія спрычыніліся да лёсу горада Пятра, згадваюцца ў гэтым змястоўным фаліянце. Праўда, няма звестак пра ўраджэнца Лепеля Восіпа Станіслававіча Пяткевіча (нарадзіўся ў 1888 годзе). Незадоўга перад Першай сусветнай вайною ён закончыў Пецярбургскую духоўную семінарыю. Служыў у касцёле ў горадзе на Няве, пасля — у Слуцку. З надыходам Савецкай улады быў арыштаваны, высланы на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. А 2 верасня 1937 года каталіцкага святара Восіпа Пяткевіча асудзілі да вышэйшай меры пакарання.

У снежні 1937 года расстралялі і другога нашага земляка — Восіпа Якаўлевіча Багаціна (нарадзіўся ў Лепелі ў 1880 годзе). Выхоўваўся ён у звычайнай яўрэйскай сям'і. З 1907 года займаў пасады духоўнага і казённага рабіна ў Лепелі, выхоўваў трох сыноў і дачку. Адчуўшы ўціск з боку ўладаў, на пачатку 20-х пераехаў у Саратаў. Там здолеў дамагчыся дазволу і ўзначаліў будаўніцтва сінагогі. Пісаў навуковыя працы па іудаізму. Некаторыя тэксты паспеў перапрвавіць у ЗША і Англію, астатнія забралі ў час арышту… Дзве розныя веры, два розныя чалавекі, лічы, аднаго пакалення. Мо нават ведалі адзін аднаго ў твар па лепельскіх гадах… І такі аднолькавы зыход, аднолькавая кара за цвёрдасць перакананняў!..

Лепель, Лепельшчына — радзіма многіх цікавых асоб. Нараджэннем з 1911 года — вучоныфармаколаг, доктар медыцынскіх навук Макс Львовіч Беленькі. У вёсцы Прудок Лепельскага раёна 4 сакавіка 1871 года нарадзіўся вучоны ў галіне тэорыі пругкасці, акадэмік Акадэміі навук СССР, інжынер-генерал-маёр Барыс Рыгоравіч Галёркін. Навуковыя здабыткі лепельчаніна адзначаны Сталінскай прэміяй (1942 год), двума ордэнамі Леніна, іншымі ўзнагародамі. А з былога маёнтка Цётшы — вучоны ў галіне садоўніцтва, садавод-памолаг Адам Станіслававіч Грабніцкі (Дактаровіч), які нарадзіўся ў 1858 годзе. У 1883 годзе скончыў Лясны інстытут у Пецярбургу, у якім пасля і выкладаў садоўніцтва і агародніцтва да 1922 года. Потым у мястэчку Дукшты (Літва) заснаваў памалагічны сад пад назваю "рай", там стала жыў і працаваў. Аўтар кніг "Плады-веліканы і іх вырошчванне", "Догляд за пладовым садам", "Пасадка пладовых дрэваў", удзельнічаў у стварэнні "Поўнай энцыклапедыі рускай сельскай гаспадаркі і памежных з ёю навук". Памёр Грабніцкі ў кастрычніку 1941 года. У літоўскім мястэчку Дукштас нашаму земляку пастаўлены помнік. Вось бы такі і садоўніку з хутара Фатынь Восіпу Кандраватавічу Марозу ўзвесці!..

Лепельшчына — край рэк і азёр. Адзін з турысцкіх маршрутаў па раёне так і называецца: "Край гарлачыкаў і сівых валуноў". І на гэтым маршруце, бадай, у кожнай вёсачцы-прыпынку можна згадаць нямала імёнаў славутых ураджэнцаў Лепельшчыны.

© *В поисках утраченного* Паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава

# “Песняры” абнавілі рэпертуар

## Знакаміты калектыў прадставіў у канцэртнай зале “Мінск” новую праграму “Вольнаму — воля”

**Віктар Корбут**


Сёння “Песняры” – гэта і моцная традыцыя, і маладыя галасы

З гэтай жа назваю ў бліжэйшы час выйдзе і новы дыск ансамбля. На канцэрце ў Мінску прагучалі амаль усе песні з падрыхтаванага альбома і некалькі кампазіцый на вершы Янкі Купалы. Усяго ж у новы альбом увойдзе 18 кампазіцый, аўтар большасці якіх дырэктар і мастацкі кіраўнік “Песняроў” Вячаслаў Шарапаў. “Вольнаму — воля” — другі дыск, зроблены ансамблем сёлета. У студзені свет пабачыў альбом песняў Ігара Лучанка. А на восень рыхтуецца да выхаду дыск кампазіцый на вершы Янкі Купалы. Ён цікавы яшчэ і тым, што ў ролі кампазітараў дэбютуюць некаторыя з музыкантаў “Песняроў”.

Дом, дзе рэпетуюць “Песняры”, знаходзіцца на мінскай вуліцы Сурганава. Але знайсці яго не спрабуйце. Нават суседзі артыстаў не ведаюць. Зоркі эстрады наўмысна хаваюцца ад публікі: каб фанаты не выстройваліся па аўтографы. Справа не ў сціпласці ці захадах бяспекі. Проста ў ансамбля многа клопатаў і няма часу, каб гайдацца на арэлях славы. Трэба працаваць. Музыканты знакамітага ансамбля і так ладзяць па восемдзесят канцэртаў у год. А цяпер паставілі перад сабой яшчэ вышэйшую планку: заваяваць сваімі песнямі цэлы свет, вярнуць папулярнасць часоў Уладзіміра Мулявіна. З новай канцэртнай праграмай “Вольнаму – воля” пачынаецца турнэ калектыву па Беларусі і Расіі.

Наведаўшы рэпетыцыю “Песняроў”, я пераканаўся, што іх песні з кампакт-дыска і выкананыя ў студыі не адрозніваюцца. Між тым на канцэрце мы часта чуем фанаграму, без якой, пераконвае Таццяна Ждановіч, піяр-менеджэр ансамбля, на жаль, немагчыма абысціся: “Выступ на вялікай сцэне завязаны на мностве тэхнічных фактараў. Ад іх залежыць якасць гуку, а таксама зладжанасць праграмы. Калі б не было фанаграмы, слухачам давялося б паміж кожнай новай песняй чакаць па пяць-пятнаццаць хвілін, пакуль перастроіцца апаратура ды будуць вырашаны тонкасці механікі сцэны”.

На “Славянскім базары ў Віцебску” адным з хітоў стала песня “Літвінка”, якую праспяваў гучным тэнарам Андрэй Усанаў. Самы малады “пясняр” усяго год выступае ў калектыве, але палюбіўся публіцы, без яго голасу і постаці немагчыма ўявіць ансамбль, які сорак год на сцэне.

“Песняры” сапраўды, нягледзячы на паважны ўзрост, цяпер перажываюць другую маладосць. Захоўваючы шарм эпохі Мулявіна, яны насычаюцца свежымі ідэямі і сілай галасоў маладых выканаўцаў. Следам за Усанавым у калектыў “улеціца” неўзабаве яшчэ адзін Андрэй — Коласаў, лаўрэат сёлетняга “Славянскага базара”, — паведаміў навіну дырэктар і мастацкі кіраўнік ансамбля Вячаслаў Шарапаў.

Коласаў паходзіць з Гомеля, Усанаў — са Смаргоні. Апошняга, дарэчы, спадар Шарапаў прыкмеціў, калі хлопец выступаў на канцэрце армейскай песні ў родным горадзе. Запрасілі нядаўна ў калектыў і шырока вядомага сярод прафесіяналаў сола-гітарыста Леаніда Вярэніча. Зрэшты, у “Песнярах” запэўніваюць, што ў іх нікому не дазволена быць “лепшым” за іншых. Камандны дух — бадай, самы надзейны рэцэпт перамогі на сучаснай сцэне, дзе выжываюць не толькі і не столькі моцныя галасы, колькі згуртаваныя дзеля адзінай справы.

# Чорна-белая магія

**Ірына Трубач**

**Выстава мастака, грамадскага і культурнага дзеяча Латвіі і Беларусі Вячкі Целеша адкрылася ў галерэі “Тызенгаўз” у Гродне**

Ураджэнец Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці, ён ужо другі раз прадстаўляе сваю творчасць землякам. Першая выстава адбылася ў Гродне яшчэ ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Цяперашнія 17 работ адкрываюць Целеша-графіка.

Вячка Целеш з 1958 года жыве ў Латвіі, дзе скончыў Акадэмію мастацтваў. Працуе ў розных жанрах станкавага жывапісу і графікі, а таксама ў экслібрысе. З 1995 года сябра Беларускага саюза мастакоў. Творы Целеша знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, іншых музеях Беларусі, замежных дзяржаўных і прыватных зборах.

У 1990 годзе Вячка Целеш стаў заснавальнікам Міжнароднага аб’яднання мастакоў-беларусаў Балтыі “Маю гонар”. Наш суайчыннік быў удзельнікам V Міжнароднага з’езда беларусаў свету.

# Унікальная знаходка ў Бярэзінскім запаведніку

**Ірына Трубач**


**Рэдкі від архідэі Ophrys insectifera, або офрыс насякоманосная, упершыню выяўлены ў Беларусі**

Аўтарам знаходкі стаў кандыдат біялагічных навук, дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта Алег Созінаў.

Новы для флоры Беларусі від расце на балоце Чысцік у Бярэзінскім біясферным запаведніку. Унікальная знаходка была выяўлена падчас сумеснай геабатанічнай экспедыцыі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта і польскіх універсітэтаў Беластока і Варшавы.

Знаходка года стала сенсацыйным і разам з тым другарадным вынікам экспедыцыі. Асноўнай яе задачай з’яўляліся геабатанічныя апісанні балотнай расліннасці ў месцах росту бярозы прыземістай, а таксама даследаванне генетычнай структуры гэтага віду. Вучоныя Беларусі і Польшчы даследавалі папуляцыі бярозы прыземістай у Слуцкім і Гарадоцкім раёнах Беларусі і ў Бярэзінскім запаведніку.

# Музей Яе Вялікасці Вады,

## альбо Для чаго збудавалі незвычайную мадэль басейна ракі Прыпяць

Як вядома, вада — першакрыніца жыцця. Менавіта ёй і прысвечаны самы малады ў нашай краіне музей. Між іншым, падобныя музеі цяпер папулярныя ў Еўропе, створаны яны таксама ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Кіеве. А мінскі Музей Вады адкрыты два гады таму ў будынку Навукова-даследчага інстытута комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў Беларусі. Ініцыяваў яго стварэнне дырэктар інстытута Міхаіл Калінін.

“У вады няма межаў, таму і мы адразу наладзілі супрацоўніцтва з іншымі краінамі: Польшчай, Латвіяй, Вялікабрытаніяй...” — паказвае мне багатую экспазіцыю загадчык музея Віктар Свірэлін. Першая зала музея прысвечана вынаходніцтвам супрацоўнікаў інстытута. У другой — падрабязная рэльефная карта Беларусі: менавіта рэльефам і абумоўлены спакойны характар беларускіх рэчак. І, нарэшце, у трэцяй зале прадстаўлена шмат цікавых звестак пра рэчкі, азёры, вадасховішчы, крамянёвыя, мінеральныя воды Беларусі. Можна пагартаць шматлікія выданні пра яе водныя рэсурсы. Сцены залы ўпрыгожваюць фотаздымкі Міхаіла Калініна. Дарэчы, фотавыстаўкі яго, прысвечаныя прыродзе Беларусі, цяпер вандруюць па ўсёй краіне.


Вольна цячэ Прыпяць па беларускім Палессі

Сярод экспанатаў музея звяртаюць на сябе ўвагу фрагменты мінскага вадаправода 1874 года — яны знойдзены на дне Свіслачы ў раёне цырка. Трубы водаправода ў той час рабіліся з дошак лістоўніцы, якія не гніюць у вадзе, зверху яны заліваліся гудронам і змацоўваліся металічнымі абручамі. Ёсць у музеі і керамічная трубка, якая выкарыстоўвалася ў 1853 годзе, калі праводзілася першае дрэніраванне забалочаных зямель на Магілёўшчыне. Шырока прадстаўлены сучасныя лічыльнікі вады, водаачышчальнае абсталяванне. Але самы галоўны экспанат — Яе Вялікасць Вада: і мінеральная, і пітная, і лячэбная. Узоры выстаўлены на стэндах у бутэльках. Ёсць у музеі і відэатэка з пазнавальнымі фільмамі. Сам жа Віктар Свірэлін збірае казкі, паданні, легенды пра ваду.

У двары інстытута можна пабачыць самы буйны музейны экспанат: мадэль басейна ракі Прыпяць з бетоннымі берагамі. Уся яе беларуская частка тут — як на далоні. Даследаванні, якія праводзяцца на гэтай мадэлі Прыпяці спецыялістамі, дазваляюць прагназаваць узровень падняцця вады ў часы паводак.

Сярод наведвальнікаў музея шмат студэнтаў, вучняў, спецыялістаў установ, якія займаюцца вадаахоўнымі праблемамі, бываюць і госці з іншых краін. Тут праводзяцца семінары, прэс-канферэнцыі.

Як вядома, 2005–2015 гады Арганізацыя Аб’яднаных Нацый абвясціла Міжнародным дзесяцігоддзем дзеяння “Вада для жыцця”. Сімвалічна, што Музей Вады ў Мінску створаны менавіта ў гэты час. Бо, пагадзіцеся, уявіць Беларусь без рэчак, азёраў, крыніц проста немагчыма.

**Лявон Целеш,**
географ, геолаг, краязнавец

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб’ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 885